# Мы хотим...

Вот уже семь лет при отделе обслуживания младших школьников Могилёвской областной библиотеки действует экологический клуб "Крынічка". Руководит клубом Галина Николаевна Дятлова. Самые активные участники клуба – читатели библиотеки, учащиеся начальных классов.

Мы хотим, чтоб птицы пели,
Чтоб вокруг леса шумели,
Чтобы были голубыми небеса,
Чтобы речка серебрилась,
Чтобы бабочка резвилась
И была на ягодах роса!

Этот легко запоминающийся стишок стал девизом нашей совместной работы. Урок-практикум "Чтобы стужи и метели не наделали беды" напомнил нашим юным читателям о зимующих насекомых, птицах и зверях и том, как они приспосабливаются к зимним холодам. На экозанятии "Покормите птиц зимой" ребята поделились опытом конструирования кормушек для зимующих птиц.



С нетерпением все мы ожидали подведения итогов конкурса рисунков "Интервью со снегирем, или О чем молчит синица" и мини-проекта "Покормите птиц зимой", который в ноябре 2005 года дал старт экологическому проекту "Мир пернатых и зверей ждёт поддержку от друзей".

Самыми активными участниками были признаны ученики 1-го "В" класса СШ № 21 (кл. руководитель С. А. Бондарева). А победителями стали Анастасия и Вероника Шило, Алексей и Антон Булановы.

Мы уверены: и в эту зиму птицы не будут чувствовать себя одинокими в нашем городе.



*Татьяна Васильевна ДЕМЕНТЬЕВА, зав. отделом обслуживания младших школьников Могилёвской областной библиотеки.*



# РАСЦІ НАША ДРЭЎЦА!

*Загадчыца Мікалаеўскай сельскай бібліятэкі, што ў Светлагорскім раёне, Таццяна Мікалаеўна Дзікун прапанавала вясной юным чытачам прыняць удзел у экалагічным праекце "Дрэва майго двара". На гэтую прапанову адгукнуліся 11 хлопчыкаў і дзяўчынак з клуба "Экалюбазнаўцы". А самым першым важкім крокам у новым праекце стала акцыя "Пасадзім дрэўца разумення і сяброўства". І цяпер гэтае дрэўца расце перад будынкам бібліятэкі.*

*Вельмі цікавым атрымалася конкурснае заданне "Дрэва ў жыцці чалавека". Кожны з удзельнікаў конкурсу самастойна збіраў цікавыя звесткі пра "зялёных" сяброў. Бабулі і дзядулі расказвалі ўнукам легенды і казкі пра дрэвы, бацькі ўспаміналі, калі і чаму была пасаджана ў двары тая ці іншая яблыня або груша. Адным словам, работа закіпела!*

*Калі ж адпаведны матэрыял быў сабраны, Таццяна Мікалаеўна прапанавала "выдаць" у свет самаробныя кніжачкі, галоўнымі героямі якіх сталі бяроза, клён, асіна, рабінка, яблыня і некаторыя іншыя дрэвы. Потым гэтыя прыгожа зробленыя кніжачкі былі выстаўлены ў бібліятэцы. А пераможцамі конкурсу былі прызнаны Таццяна Асадчая, Вікторыя Ачарот, Ірына Дзікун і Марыя Русіновіч. Хочацца таксама дадаць, што яны ахвотна расказалі прысутным на свяце, як правільна даглядаць маладзенькія саджанцы, каб з часам яны выраслі ў вялікіх зялёных волатаў.*

*Іна РУДЗЯНОК, г. Светлагорск.*






# ЛЕСАВІК

©Часопіс сяброў прыроды:
дзіцячае экалагічнае выданне для сям'і і школы.
Заснаваны ў лютым 1995 г.
Выходзіць адзін раз у два месяцы.
№ 5(66), жнівень—верасень 2006 г.
Рэгістрацыйны № 417.
Выдавец, галоўны рэдактар
М. Р. ЯГОЎДЗІК.
Рэдакцыйная рада:
Валерый Лявунін(мастацкі рэдактар),
Сяргей Чарапіца, Юлія Шаціла,
Уладзімір Ягоўдзік (рэдактар нумара).
Адрас для карэспандэнцыі:
220020, г. Мінск, паштовая скрынка 32.
E-mail: yagodzik@rambler.ru
Адрас рэдакцыі:
220020, г. Мінск, вул. Л. Украінкі, 12-1-570.
Падпісана да друку 19.09.06. Заказ № 2444.
Фармат 60*84 1/8. Тыраж 2930.
Камп'ютэрная вёрстка выканана ў рэдакцыі.
Надрукавана ў РУП "Выдавецтва
"Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.


*На першай старонцы вокладкі фота Уладзіміра ЯГОЎДЗІКА.*





# ДАСЛЕДЧЫК РАКС

Кардонную каробку з надпісам "КСЕРАКС" да нас прынёс сваяк, які ад'язджаў у тэрміновую камандзіроўку. І папрасіў, загадкава пасміхваючыся, каб да яго вяртання каштоўная рэч захоўвалася ў нашай кватэры. Мы, вядома, згадзіліся. Сваяк спяшаўся на цягнік, таму хуценька развітаўся. А неўзабаве ў каробцы штосьці зашкраблося. Цікаўная мама адразу пачала яе развязваць. Ну, а затым – аж войкнула ад здзіўлення. З каробкі проста ёй у далонь ружовай піпкай носа тыцнуўся малы шчанюк. Яшчэ праз імгненне ён выбраўся на волю і пабег на кухню. Там па-гаспадарску абнюхаў усе закуткі, асабліва зацікавіўся сметніцай. Мы разгублена назіралі за гэтым спектаклем і не здагадваліся пра значнасць той падзеі, якая толькі-толькі здарылася з намі.

За тыдзень жыццё наша крута перайначылася. Спачатку Ракс (так мы яго назвалі, адкінуўшы склад "ксе" ад слова "ксеракс") расшкамутаў сметніцу, а смецце развалок па ўсіх пакоях, потым загубіў кветкі, што стаялі на падлозе, перагрыз тэлефонны кабель… Мы зразумелі: яшчэ некалькі дзён – і ў кватэры трэба рабіць капітальны рамонт. Вырашылі неадкладна завесці шчанюка на дачу, пад нагляд дзядулі.

На дачы Раксу спадабалася. Перш-наперш ён падаўся на сажалку. Вярнуўся адтуль мокры, незадаволены, нібыта кімсьці абляяны. На другі дзень пабег у гародчык. Выбраў самую вялікую граду і давай там качацца па зямлі, зацята рыць мышыныя норы. Убачыўшы гэта, дзядуля з такой імклівасцю выскачыў з хаты, што нават шчанюк сваім невялічкім розумам сцяміў: трэба неадкладна хавацца! Зашыўся каля плота ў траву і задрамаў сабе на сонейку. Аж тут зусім побач на кветку апусціўся самавіты чмель. Шчанюк тыцнуўся носам да яго, каб пазнаёміцца…

А што было далей – мы ўбачылі, калі прыехалі вечарам на дачу. Дзядуля хадзіў паміж градаў і праклінаў разбойніка, што спляжыў усю да апошняга каліва гародніну. Ну, а самога разбойніка мы знайшлі пад ложкам. Ён ляжаў з распухлым ад чмялёвага пацалунка носам і ціха віскатаў ад болю.

Назаўтра раніцай Ракс упершыню наведаў ветэрынара. Калі мы вярнуліся дамоў, шчанюк з гыркатам кінуўся на маміны пантофлі і давай іх грызці. Мы схапіліся за жываты: няўжо маміны пантофлі сапраўды падобны на чмялёў?!

*Ганна ЦАР, г. Маладзечна. Фота Віктара АКУШКІ.*

# Хлопцы і яшчаркі

Гэтых грацыёзных земнаводных істот даўжынёю з пядзю, падобных на маленькіх кракадзільчыкаў, можна сустрэць у полі, на ўзлеску, у сухім бары, на ўзбочынах дарог і пры чалавечым жыллі.

У нас на дачы порсткія яшчаркі жывуць пад хлеўчуком. На зіму яны затыкаюць сваю норку сухою травою, апалым лісцем і спяць. У красавіку-маі яшчаркі выходзяць з норак. Яны любяць грэцца на сонцы.

Зеленаватыя альбо аліўкавыя, а найчасцей буравата-шэрыя, з цёмнымі палоскамі ўздоўж хрыбта, у маленькіх чорных крапінках, з зеленаватым альбо белым брушкам, яны адаграваюцца пасля зімы. А потым палююць на маленькіх жучкоў, павучкоў, конікаў і розных дробных насякомых-шкоднікаў, якія жывуць у агародах. Таму яшчаркі вельмі карысныя, іх трэба берагчы.

У чэрвені яшчарка-мама кладзе ў ямку ці ў норку ад шасці да дванаццаці яек, з якіх неўзабаве на свет выходзяць маленькія яшчаркі. У жніўні яны ўжо дарослыя і палююць на градах.

Ягорка і Макс навучыліся лавіць яшчарак, накрыўшы іх зверху далоняй. За хвост яшчарку лавіць нельга, бо яна адкідае свой хвосцік, каб уцячы. Гэта ёй балюча. А калі хвосцік не да канца адарвецца, то стары прыжывецца і вырасце новы. І будзе яшчарка з двума хвастамі.

Спачатку яшчаркі супраціўляліся хлопцам, спрабавалі кусацца. Зубкі ў іх маленькія, яны нават дзіцячую скуру пракусіць не могуць. Яшчарка схопіць за палец і вісіць. Падаць на зямлю баіцца.

Хлопцы праверылі, якія з яшчарак плывуны. У ванну з вадою пусцілі. Плыве яшчарка прыгожа і хутка, лапкамі грабе, хвосцікам дапамагае і рулюе ім. Але ў вадзе халаднавата. Таму з задавальненнем выпаўзае на падстаўленую руку, кладзецца на яе і заціхае. І ад рукі цёпла, і на сонцы прыгравае. Дрэмле яшчарка на руцэ.

Тыя яшчаркі, якія пабывалі ўжо ў руках у хлопцаў, болей не супраціўляліся, калі іх лавілі, і не спрабавалі кусацца. Гэта рабілі тыя, хто папаўся ўпершыню.

Так і сябравалі хлопцы з яшчаркамі, пакуль летнія канікулы не скончыліся. Хлопцы ў горад паехалі, а яшчаркі засталіся бегаць па гародзе, пакуль не захаладае і не прыйдзе час хавацца ў норку і засынаць да вясны.

*Алесь ЖУК.*

*Фота Сяргея ЧАРАПІЦЫ.*

# КАЛОЖСКІ ПАРК

З замкавай гары на высокім беразе Нёмана, дзе калісьці ў сівую даўніну была заснавана Гародня (цяпер – горад Гродна), адкрываецца дзівосны пейзаж. Безумоўна, гэта найпрыгажэйшая мясціна на доўгім, амаль тысячакіламетровым нёманскім шляху. Тут на абрывістай строме расце малады парк і ўжо дзевяць стагоддзяў стаіць наша славутая беларуская святыня – Каложская царква.

Барысаглебская ці Каложская царква – адзіны ацалелы помнік унікальнай Гродзенскай архітэктурнай школы XII стагоддзя. Барысаглебскай яе назвалі ў памяць нявінна забітых сыноў вялікага кіеўскага князя Уладзіміра, якія з'яўляліся нябеснымі заступнікамі старэйшых сыноў гродзенскага князя Усеваладкі. Сваю другую назву – Каложская – царква атрымала значна пазней. Паводле



Наўгародскага летапісу вялікі князь Вітаўт у сакавіку 1405 года пасля ўдалага паходу на Пскоў перасяліў на нёманскія берагі з пскоўскага прадмесця Каложы 11 тысяч палонных. З часам мясцовасць, дзе яны жылі, стала называцца Каложай. А затым паступова гэтая назва замацавалася і за Барысаглебскай святыняй, вакол якой пасяліліся пскавічы.

І хоць ад першапачатковага храма ўцалела ўсяго адна трэць (у 1853 годзе, калі падмыты Нёманам бераг абваліўся, разбурылася ўся паўднёвая і частка заходняй сцяны, а пазней і паўднёвая апсіда), яго сцены, упрыгожаныя вялікімі камянямі з шліфаванай знешняй паверхняй і паліванымі рознакаляровымі керамічнымі пліткамі, зачароўваюць дзівоснай вясёлкавай прыгажосцю. Шмат бачылі і шмат помняць гэтыя сцены. Найперш яны помняць нашых далёкіх слаўных продкаў: князя

Давыда Гарадзенскага, які адважна змагаўся з крыжацкай навалай, а таксама вялікага князя Вітаўта, які пабудаваў у Гародні Стары замак і абраў горад над Нёманам сваёй рэзідэнцыяй у Вялікім княстве Літоўскім. Паданні кажуць, што менавіта каля старога замка Вітаўт збіраў свае войска перад паходам на Грунвальд, дзе крыжаносцы былі ўшчэнт разбіты. Радасна бачыць, што ў гонар абодвух слаўных ваяроў удзячныя нашчадкі паставілі ў парку памятныя помнікі-валуны.

Каложскі парк прыгожы ў любую пару года. Вясной і летам тут чуваць натхнёны птушыны аркестр, восенню – дрэвы стаяць у старадаўніх залатых строях. А зімой каля Каложы, у нёманскіх палонках, можна пабачыць звычайных гогалеў, вялікіх савукоў і некаторых іншых вадаплаўных прыгажуноў. Гэтую святую мясціну вельмі любяць гродзенцы. Будзеце ў нашым горадзе – абавязкова завітайце сюды, каб дакрануцца сэрцам да вечнага.

*Мікалай ГУЛІНСКІ, фота аўтара.*



## КВЕТКІ ПАМЯЦІ

Гэтую экалагічную сцяжынку мы стварылі год назад. У яе стварэнні бралі ўдзел і настаўнікі, і супрацоўнікі бібліятэкі, і многія вучні нашай школы. Цікава тое, што сцяжынка праходзіць праз усе тры паверхі школьнага будынка.

На першым паверсе ў нас жывуць хамяк Лола, а таксама канарэйкі Карл і Клара. На свае канцэрты гэтыя сімпатычныя птушкі збіраюць каля сябе шмат слухачоў і гледачоў. Непадалёку ад клеткі вісіць насценная газета "Свет вакол нас", дзе змяшчаюцца самыя разнастайныя звесткі на экалагічную тэматыку.

На другім паверсе гаспадараць папугайчыкі Рома і Рыта. Назіраць за імі можна бясконца. Такія яны вясёлыя і пацешныя! Побач з імі на століку ляжаць свежыя нумары часопісаў "Лесавік" і "Мир животных". Акрамя таго, на другім паверсе знаходзіцца стэнд, дзе можна ўбачыць лепшыя малюнкі нашых школьных мастакоў, прачытаць вершы паэтаў-пачаткоўцаў.

А на трэцім паверсе стаяць два невялікія акварыумы з прыгожымі рыбкамі. Побач з акварыумамі, у нашым 4-м "В" класе, жыве свавольнік папугай Кроша. Ён свабодна лётае па класе, бо ўмее сам адчыняць клетку.

На экалагічнай сцяжынцы расце мноства кветак, якія мы ахвотна даглядаем. Дарэчы, вясной мы асабліва клапаціліся пра расаду кветак, а потым тыя кветкі пасадзілі на брацкай магіле салдат і партызан, што загінулі ў апошнюю вайну каля нашага пасёлка…

*Юля ПРАНЯВАЯ, вучаніца 4 "В" класа СШ № 1 г. п. Краснаполля.*



# ДЗЕ ПЕРСПЕКТЫЎНЫ ШЛЯХ?

*– Вільгельм Міхайлавіч, колькі электраэнергіі за адзін год выкарыстоўваецца ў нашай краіне?*

– У 2005 годзе гэтая лічба паводле статыстычных звестак склала 35 млрд кВт/гадзін. Каб зразумець тэндэнцыю ў развіцці электраэнергетыкі за апошні час, прывяду яшчэ адну лічбу: у 2001 годзе Беларусь спажыла каля 34 млрд кВт/гадзін. Значыць, за чатыры гады агульнае выкарыстанне электраэнергіі вырасла ў нас на 1 млрд кВт/гадзін.

*– Цікава тады ведаць, колькі электраэнергіі выпрацоўваецца непасрэдна ў Рэспубліцы Беларусь.*

– Зноў звернемся да лічбаў. А яны наступныя: у 2005 годзе ў краіне было выпрацавана амаль 30 млрд кВт/гадзін, тады як у 2001 годзе гэтая лічба складала 26 млрд кВт/гадзін. Такім чынам, за адпаведны перыяд выпрацоўка электраэнергіі штогод павялічвалася ў сярэднім на 1 млрд кВт/гадзін. Разам з тым варта адзначыць, што ў 2005 годзе мы вымушаны былі імпартаваць з-за мяжы каля 5 млрд кВт/гадзін.

*– На якім паліве працуе большасць беларускіх электрастанцый?*

– Скажу адразу: мы належым да краін, дзе надзвычай востра стаіць пытанне забеспячэння сябе электраносьбітамі. Галоўным палівам пры выпрацоўцы электраэнергіі на беларускіх станцыях з'яўляецца прыродны газ, які пастаўляецца з Расіі. Доля прыроднага і спадарожнага газу ў паліўна-энергетычным балансе Беларусі сёння складае больш за 96 працэнтаў. Таму невыпадкова ўрад прыняў спецыяльную праграму, дзе прадугледжана паступовае (да 2012 года) забеспячэнне ў краіне 25 працэнтаў вытворчасці электраэнергіі за кошт выкарыстання мясцовага паліва і альтэрнатыўных крыніц энергіі. Адзін з яркіх прыкладаў выканання гэтай праграмы – будаўніцтва ў горадзе Асіповічы станцыі, якая працуе толькі на фрэзерным торфе і драўніне. Цяпер там якраз выпрабоўваюць самыя разнастайныя агрэгаты.

*– А што вы скажаце пра будаўніцтва гідраэлектрастанцый?*

– Тут, як кажуць, ёсць дзе разгарнуцца. У мінулым годзе доля выпрацаванай на ГЭС электраэнергіі склала ўсяго 0,1 працэнта. Вельмі добра, што актыўна аднаўляюцца невялікія ГЭС, якіх калісьці шмат было на нашых рэках. Вось два свежыя прыклады. У 2005 годзе ў Пружанскім раёне Брэсцкай вобласці стала дзейнічаць ГЭС "Паперня", дзе электраэнергію даюць два агрэгаты магутнасцю па 100 кВт кожны. І на Браслаўскай ГЭС, што стаіць на рацэ Друйка, таксама працуюць два агрэгаты. Магутнасць кожнага – 150 кВт.

У бліжэйшыя пяць гадоў плануецца будаўніцтва Полацкай ГЭС на Заходняй Дзвіне, Гродзенскай ГЭС на Нёмане, ГЭС на Дняпры ў Магілёўскай вобласці. Мяркуецца, што іх магутнасць у канцы 2010 года дасягне 51,6 МВт (у 2005 годзе магутнасць усіх нашых гідраэлектрастанцый складала ўсяго 10, 3 МВт).

*– Вільгельм Міхайлавіч, а якія перспектывы развіцця ў Беларусі энергетыкі на ўзнаўляемых рэсурсах?*

– Да прыярытэтных тэхналагічных напрамкаў тут у першую чаргу варта аднесці гідраэнергетыку і ветраэнергетыку. Пра гідраэнергетыку я ўжо трошкі казаў . Заўважу толькі, што патэнцыйная магутнасць усіх вадатокаў нашай краіны складае 850 МВт, але толькі 250 МВт, як лічаць вучоныя, будуць эканамічна апраўданымі.

А вось патэнцыйная магутнасць 1840 ветрагенератараў, каб мы іх пабудавалі, склала б 1600 МВт і нават больш. Хіба не перспектыўны шлях? Між тым у пачатку 2005 года магутнасць усіх беларускіх ветраэнергетычных установак была ўсяго 1,1 МВт. Мяркуецца, што ў 2012 годзе гэтая лічба дасягне 5,2 МВт.

*– Вашы адносіны да будаўніцва ў Беларусі АЭС?*

– Я не спецыяліст у галіне атамнай энергетыкі, таму не маю падстаў публічна меркаваць аб мэтаз-



годнасці будаўніцтва атамнай электрастанцыі. Але як грамадзянін краіны, што зведала жахлівую чарнобыльскую трагедыю, адмоўна стаўлюся да такіх паспешлівых планаў. Спачатку нам трэба прыкласці ўсе намаганні для выканання запланаваных энергетычных праграм. А ў першую чаргу – кожны з нас мусіць навучыцца энергаберажлівасці як на працы, так і дома.

*З кандыдатам тэхнічных навук*
*Вільгельмам ДУБІЛОВІЧАМ*
*гутарыў Уладзімір ЯГОЎДЗІК.*



# У БЕЛАРУСІ БУДЗЕ АЭС?

У пачатку лета інфармацыйнае агенцтва "БЕЛТА" распаўсюдзіла інфармацыю, што ў Аб'яднаным інстытуце энергетычных і ядзерных даследаванняў "Сосны" бліз Мінска на працягу бліжэйшых двух гадоў будзе завершана абгрунтаванне інвестыцыйнага праекта па будаўніцтве ў краіне атамнай электрастанцыі.

По словах намесніка генеральнага дырэктара інстытута Анатоля Якушава фінансаванне будаўніцтва мяркуецца ажыццяўляць за кошт інвестыцыйнага фонду Міністэрства энергетыкі і запазычаных рэсурсаў. Па меркаванні спецыялістаў кошт АЭС магутнасцю 2000 МВт пры выкарыстанні расійскіх тэхналогій складзе 2,2–2,6 мільярда долараў ЗША.

Пасля завяршэння будаўніцтва, да 2020 года, доля выпрацаванай на АЭС электраэнергіі ў Беларусі складзе 27–30 працэнтаў.

# НАШ СЯБАР – ВЕЦЕР

Калі ў сярэдзіне 1970-х гадоў дацкія ўлады вырашылі пабудаваць каля горада Ульфбарга атамную электрастанцыю, насельніцтва рашуча выказалася супраць гэтых планаў. А праз тры гады, дзякуючы намаганням мясцовай камуны, замест АЭС паўстаў шасцідзесяціметровы вятрак "Tvind" магутнасцю 1 МВт. Сёння вакол яго створаны цэлы ветрапарк, дзе магутнасць многіх ветрагенератараў дасягае 2 МВт.

Тэрыторыя Даніі – 43 тыс. кв. км, Беларусі – 207,6 тыс. кв. км. Аднак ужо два гады назад на радзіме славутага казачніка Х. К. Андэрсена магутнасць усіх ветрагенератараў складала 2900 МВт! За два мінулыя гады гэтая лічба значна вырасла. Да 2030 года тут плануюць атрымліваць "з паветра" палову самай таннай у свеце электраэнергіі, сабекошт якой за 1 кВт/гадзіну складае ўсяго 4–5 цэнтаў.

Вятрак – даволі просты ў эксплуатацыі, а парамантаваць яго зношаны механізм можна ўсяго за некалькі дзён. І ніякай небяспекі людзям і навакольнаму асяроддзю.



Аднойчы ў сярэдзіне мая, блукаючы па лесе я прыкмеціў, што побач з высокай асінай, як сонечныя зайчыкі, мільгаюць авяльгі. Птушкі зрэдку пераклікаліся дзвівоснымі меладычнымі галасамі і кудысьці адляталі. Потым зноў вярталіся да гэтай асіны. Я доўга з розных бакоў узіраўся ў крону дрэва, але так і не заўважыў штосьці цікавае.

Інтуіцыя падказвала: трэба пачакаць. І неўзабаве мне пашанцавала. Я ўбачыў авяльгу, якая трымала ў дзюбе пярынку. Перакокваючы з галінкі на галінку, яна шмыгнула ў бакавую частку кроны і знікла сярод густой лістоты. Праз якую хвіліну вярнулася другая птушка, трымаючы ў дзюбе сухую травінку. Яна таксама схавалася сярод лістоты. Раптам наляцеў моцны вецер. Галіны дрэва загайдаліся ўбакі і я ўбачыў, што адна з птушак сядзіць на краёчку гнязда…

***

Мінуў тыдзень. Я ўважліва абглядзеў усе дрэвы, што раслі побач з асінай. За некалькі крокаў стаяла выгоністая сасна. Трошкі далей — яшчэ адна. Значыць, ёсць магчымасць уладкаваць назіральны пункт. А вось суседзі ў авяльгоў не надта прыемныя. Канюк і сойка. Канюк хоць і мышалоў, але не супраць упаляваць шпака. Ну, а сойка таксама драпежніца. Сваіх ненажэрных птушанят яна корміць праз кожныя паўгадзіны. І не толькі мухамі ці казюркамі…

Настрой мой падняўся, калі ўбачыў праз бінокль: самка авяльгі нерухома сядзіць у гняздзе. Мабыць, наседжвае яйкі. Хутчэй бы ўжо праклюнуліся птушаняты!

***

11 чэрвеня. Вырашыў залезці на бліжэйшую сасну, каб паглядзець, што робіцца ў гняздзе. Вышыня даволі прыстойная — прыблізна 18 метраў. Ды мне не прывыкаць. І вось я апынуўся насупраць гнязда. Зроблена яно ў выглядзе кошычка, акурат у развілцы паміж галінак. Зверху адкрытае, але схавана добра. Бачу ў бінокль самку. У гэты момант падляцеў самец. Самка тут жа зляцела ўбок, а ён, прысеўшы на край гнязда, апусціў уніз галаву. "Пэўна, корміць пісклянят…" — парадаваўся я. І не памыліўся. Сапраўды, праз імгненне ўбачыў двух зусім голых птушанят. Побач з імі ляжала яйка. Яно было белае, абсыпанае зялёнымі крапінкамі.

Трывожна закрычала самка. Трэба хутчэй вяртацца на зямлю, каб не прывабіць сюды крылатых разбойнікаў. З уласных назіранняў ведаю: яны вельмі чуйныя і не абмінаюць лёгкай здабычы.

***

На сасне, што расла далей ад асіны, мы з сябрам прыладзілі палатку. А на суседняй абламалі галіны, каб не перашкаджалі фатаграфаваць. Заадно даведаліся, як рэагуюць на нашу прысутнасць птушкі. Спачатку яны падляталі да гнязда палахліва. Пасля, здаецца, супакоіліся.

У палатцы — не павярнуцца. Бачна толькі тое, куды скіраваны аб'ектыў. У гняздзе я налічыў трох птушанят, падобных на зялёных гномікаў. Сядзяць моўчкі. Затым пачынаюць моцна верашчаць. Праз імгненне на край гнязда апускаецца самец авяльгі. Ён трымае ў дзюбе вялікага майскага хрушча. Адно з птушанят тут жа хапае спажыву, але ніяк не можа яе праглынуць. Клапатлівы тата забірае хрушча, умомант раздушвае яго вострай дзюбай і вяртае малому. А сам, проста ў мяне на вачах, падае голас, быццам іграе на сваёй славутай флейце!

Дзеля такога моманту я гатоў хоць цэлы дзень прасядзець на сасне ў цесным мяшку палаткі. Шкада, загайдалася вяршаліна сасны. Гэта падняўся вецер. Па небе паплылі нізкія шэрыя хмары. Трэба хутчэй злазіць, пакуль не лінуў дождж.

***

У наступныя выхадныя я зноў спыніўся каля знаёмай асіны. Птушаняты прыкметна падраслі. У малым кошычку гнязда ім было відавочна цесна. Акрамя таго, яны не сядзелі спакойна, і раз-пораз трапяталі крыльцамі — рыхтаваліся да будучых палётаў. 27 чэрвеня ў маім падарожным блакноце з'явіўся запіс: "Гняздо апусцела. Птушаняты сядзяць паасобку ў кроне асіны і падаюць галасы, каб бацькі не забываліся іх карміць…"

Пакінутае гняздо ахінула мяне ціхай журбой. Не за гарамі восень. У сярэдзіне жніўня авяльгі, бадай, самыя першыя з птушынай сям'і, адляцяць у вырай. А радавала тое, што наступнай вясною ў нашых лясах і пералесках зноў загучаць дзівосныя флейты.

*Сяргей ЧАРАПІЦА, фота аўтара.*

# АТАКА АММОФИЛЫ

Впереди, между кронами деревьев, забрезжил просвет. "Значит, подхожу к линии электропередачи, – сориентировался я. – А там, на песках, любят рыть свои шахты осы-парализаторы аммофилы песчаные..." Свернул к знакомому месту: отдохну и заодно посмотрю на этих интересных насекомых.

Вокруг летали голубянки. Они присаживались на травинки и подставляли свои сложенные крылья боком к тёплым лучам солнца. На цветы они почему-то не садились, и снимать их было не интересно. ЛЭП – большая поляна среди леса, она тянется на многие километры. Тут всегда интересно ходить с фотоаппаратом в поисках кадров. Ага! А вот и аммофила охотится на обочине дороги. К своему стыду, я не знал даже вида этой знаменитой красавицы, которая, в отличие от меня, прекрасно разбирается в строении нервной системы гусениц. Только недавно, внимательно прочитав Фабра, я узнал, где у гусениц расположены нервные узлы.

Вдруг оса, как собака, начала крутиться возле кустика травы. Неужели нашла добычу? Затем она стала рыться в песке то с одной стороны, то с другой. Сбросив рюкзак, быстро достаю фотоаппарат с объективом для макросъёмки. Неужели повезло и мне предстоит увидеть схватку аммофилы с гусеницей озимой совки? Именно на совок и охотится эта оса. Под кустиком хорошо слышно жужжание вибратора аммофилы, аж во все стороны летят песчинки. Ползаю на коленях в поисках удачной композиции. Оса вцепилась в червяка своими жвалами и, лежа на боку, наносит укол жалом. Гусеница делает резкие движения, пытаясь сбросить с себя напавшее насекомое. Тем временем аммофила наносит очередной укол жалом во второй сегмент от головы.

Успеваю сделать несколько кадров. Навести резкость почти невозможно – мешают травинки. "Гладиаторы" сплелись в клубок. И вдруг оса оставляет гусеницу, с минуту бегает вокруг места, где шло сражение. Быстро выдёргиваю несколько травинок, мешавших съёмке. Оса успокаивается и снова бросается на свою жертву. Дело в том, что у гусеницы восемь нервных узлов, и, чтобы её обездвижить, нужно поразить все восемь нервных центров. Озимый червь раз в пятнадцать больше аммофилы, у него мощные челюсти. При малейшей оплошности оса может потерять не только крылья или ноги...

Аммофила снова оставила поле битвы. И тут я заметил, что это насекомое не совсем похоже на обычную аммофилу песчаную. Голова крупнее, грудь мощнее... Неужели какая-то особая разновидность аммофилы? Дальнейшее поведение победительницы подтвердило мои догадки. Протащив гусеницу метра три в сторону от дороги, оса принялась рыть норку. Из литературы мне было известно: обычно песчаные осы роют норки заранее, а затем отправляются на охоту. В этом случае всё было наоборот. Может, я наблюдал за шерстистой аммофилой, которая появляется ранней весной? Кстати, аммофилы роют свои норки жвалами, применяя при этом вибратор, а песок относят в сторону по воздуху. Моя же фотогероиня во время земляных работ ни разу не взлетела. При мне она четыре раза начинала рыть норку и только пятую вырыла до конца. Затащив туда гусеницу и отложив в неё яйцо, оса закрыла норку камешками, засыпала песком и так его разровняла, как будто здесь никогда не было никаких дырочек.

Может, я наблюдал за очередной загадкой природы?

*Георгий ГУЛЕВСКИЙ, фото автора.*

# В Полесской Амазонии

Владимир ШНИТНИКОВ.

**1. МОИ ПОМОЩНИКИ**

Особенно замечательным человеком среди моих добровольных сотрудников был крестьянин Фёдор Антошук. Не только он сам родился, вырос и всю свою жизнь провёл в лесной сторожке в огромном, глухом лесу, но в этой же сторожке родился и прожил всю жизнь и его отец. Дед Антошука был лесником в этом лесу, его сменил отец Фёдора, а после смерти отца это же место занял сам Фёдор. Понятно, что, выросши среди лесных зверей и птиц, он должен был более или менее ознакомиться с ними и узнать их жизнь. Антошук был страстный охотник и прирождённый натуралист. Особенно интересовался он птицами и знаком был со всеми лесными представителями царства пернатых. Он не всегда знал их настоящие названия и именовал их по-своему, он прекрасно различал даже таких птиц, которых умеют различать в природе обыкновенно только специалисты. Знал решительно всех хищников, включая очень редкого в тех местах сокола-сапсана, всех дроздов, славок, различал даже всех трёх наших пеночек, так похожих одна на другую. Прекрасно знал, какая из них как поёт (а поют они все три совершенно разно), какие у каждой яйца, несмотря на то, что гнёзда пеночек находить так трудно. Он мне очень много помог не только доставлением разных интересных птиц и особенно гнёзд с яйцами, но и рассказами о своих наблюдениях над птицами. Кроме того, Антошук, кстати сказать, не получивший никакого образования, был необыкновенно симпатичен как человек:



*Доктар біялагічных навук Уладзімір Мікалаевіч Шнітнікаў (1874–1956) з 1897 па 1907 год апантана займаўся вывучэннем птушак Беларусі. Вынік гэтага навуковага подзвігу – вялікая манаграфія "Птицы Минской губернии" (Масква, 1913), якая на доўгія гады стала своеасаблівай энцыклапедыяй для беларускіх арнітолагаў. Акрамя таго, Уладзімір Мікалаевіч аўтар кнігі "Из воспоминаний натуралиста" (1958), дзе ў раздзеле "Полесье" падрабязна расказвае пра свае незабыўныя вандроўкі па беларускай зямлі. Чытаючы гэтыя надзвычай цікавыя старонкі, нібы трапляеш у казачны край. І проста дзіву даешся: як моцна змянілася наша прырода за апошнія сто гадоў! У тым вы можаце ўпэўніцца і самі, дарагія нашы чытачы.*

скромный, деликатный, мягкий, он отличался, вдобавок, безукоризненной честностью.

Другой мой помощник, тоже крестьянин, Тимофей Кузьмич, или попросту Тимох, был хорошим старательным хозяином. Но он так любил охоту, что стоило мне приехать к нему, как он немедленно бросал любую работу. На деньги, полученные от меня за лодку и управление ею, он нанимал какого-нибудь свободного соседа и говорил, что жена его справится с хозяйством не хуже его. Сам же брал ружьё, весло, мы усаживались в его небольшую плоскодонную лодчонку, в которую третьему втиснуться было бы уже невозможно, и на целый день исчезали в обширных болотах, прилегавших к селению. Тимох, обладавший большой физической силой, великолепно справлялся со своей лодочкой даже при мелкой воде и среди густой осоки, когда, казалось бы, на лодке проехать невозможно. При более же глубокой воде он вёл своё судёнышко с необыкновенной быстротой и так бесшумно, что нередко утки срывались и поднимались столбом кверху у самого борта лодки или прямо под её носом. С





поразительным искусством умел он даже среди совершенно однообразного пространства зарослей осоки заметить место, где уселась улетевшая утка или упала убитая…

## 2. ПОЛЕССКИЕ “БЕГЕМОТЫ”

Однако как же это так: болото и вдруг лодка? Перепрыгивать с кочки на кочку, собирая клюкву или морошку, это понятно… А между тем мы ездили и вовсе не случайно в какие-нибудь дождливые годы, а постоянно. Дело в том, что полесские болота не имеют ничего общего с моховыми болотами севера. Это в сущности сенокосные пространства, залитые речной водой. Полесские реки текут медленно, в очень низких берегах, и при малейшем повышении уровня вода выходит из берегов и разливается на огромные пространства во все стороны Полесской низменности. При продолжительных дождях бывали случаи, что даже пароходы (правда, все плоскодонные) сокращали путь и шли не по реке, а срезали углы и повороты и преспокойно направлялись прямо через сенокосы.

Да, интереснейшие природные условия представляют эти болота. По казённым бумагам и книгам они даже не назывались болотами, а числились в соответственных графах как “заливные луга”. Однако в отличие от действительно заливных лугов, затоплявшихся лишь весной, при разливе рек, полесские “луга” были залиты раз навсегда и высыхали только в исключительно сухие годы, да и то далеко не везде. Правда, среди этих бесконечных болотных пространств были огромные площади, которые действительно косились, и потому с натяжкой их можно называть лугами, или по

крайней мере сенокосами. Но сено на них было, конечно, плохого качества, осоковое, и только привычный местный скот использовал его. В большую воду, когда по болоту ходить было невозможно, я сам не раз видел, как коровы и волы пасутся вплавь. Выберутся на какой-нибудь узенький проток среди болота с более глубокой водой и не заросший растительностью и плывут себе по нему, срывая траву по берегам – то справа, то слева. Попадается где-нибудь по пути более высокое местечко, на которое можно выбраться, вылезут, объедят траву и – опять в воду! Вроде бегемотов…

А какой труд приходилось затрачивать крестьянам для того, чтобы запасти на зиму достаточно сена на таких "заливных" лугах! Косить приходилось нередко выше колен в воде. Чтобы высушить накошенную траву, вытаскивали её на разбросанные там и сям среди болота более возвышенные клочки, нечто вроде островков, по-местному – "грудки". На этих же грудках и жили работавшие на сенокосах, многие из которых приезжали косить из дальних деревень, расположенных в 40–50 километрах от такого сенокоса в сухих районах Полесья.





Спасаясь от ночного тумана и ограждая себя от комаров, они сооружали на высоких подпорках помосты, на них и спали. Над помостом прилаживалась крыша – получалось нечто вроде жилищ на сваях, устраиваемых и до сих пор некоторыми народами.

## 3. ПРОПАВШИЙ ПРИСТАВ

Были в Полесье и такие места, где в нормальные годы летом невозможно никакое сообщение: для лодки вода недостаточно глубока, для пешеходного движения – слишком глубока.

Есть, например, такая деревня Альманы. До неё с одной стороны существовала дорога. Какая дорога – это вопрос, но с этой стороны до Альман всё-таки кое-как можно было добраться. В Альманах дорога кончалась тупиком, и дальше уже никуда проехать было нельзя из-за окружавших деревню со всех остальных сторон совершенно непроходимых и непроезжих болот. А были и деревни, расположенные на более значительных участках таких болот, что сообщение с остальным миром там было возможно только зимой, когда болота замерзали, или в исключительно сухие годы. Так, деревня Новосёлки, находящаяся по прямому направлению в 15 километрах от своего волостного центра и зимою связанная с ним прекрасно, всё остальное время года оказывалась от него на расстоянии… 200 километров. Чтобы попасть туда, надо было ехать через два соседних уезда – Новогрудский и Слуцкий… Ко всему этому надо ещё добавить, что в Пинском Полесье зимы иногда бывают такие тёплые, что болота замерзают всего на две-три недели, а иногда и вовсе достаточно не промерзают.

В моё время ходил рассказ о том, как однажды в конце осени становой пристав поехал по делу в какую-то деревню, куда давно собирался пробраться, и пропал без вести. Прошла зима, весна, лето, опять настала зима, и только в конце её пропавший пристав вдруг вернулся домой. Оказалось, что он воспользовался рано наступившими морозами, чтобы по зимнему пути попасть в нужную деревню, но едва он туда добрался, как началась оттепель, чуть замерзшие болота растаяли и вновь замерзли только в конце следующей зимы…

Вообще здесь даже и зимнее время далеко не всегда обеспечивает возможность безбоязненно и уверенно двигаться по болотам. Не все болота замерзают сразу и не везде одно и тоже болото замерзает одинаково. Среди болот во многих местах пробиваются ключи, глубина неодинакова, растительность тоже неоднородна. Поэтому, если где-нибудь лёд уже достаточно прочен, вовсе не значит, что он прочен и всюду.

**4. АХ, ДОРОГИ!..**

Каждый крестьянин, отправляясь куда-нибудь зимой пешком или на лошади, берёт с собой посох и время от времени с определённой силой ударяет наконечником по льду. Долгий опыт научил их ударять всегда с нужной силой, и в зависимости от этого, пробил ли наконечник лёд при такой-то силе удара или не пробил, они безошибочно определяли крепость льда. С полной уверенностью они говорили: "Тут может пройти лошадь одна; здесь – лошадь с груженым возом; тут – только человек, а в этом месте лёд не выдержит и человека". Эта их спокойная уверенность была поразительна, но она всегда оправдывалась на деле, что я сам видел не раз.

Кстати следует сказать, что в Полесье часто имеется в виду под словом "дорога". Здесь иногда на огромном расстоянии приходится ехать сплошной греблей, или гатью. Езда даже по самой лучшей гребле всегда неприятна, а нередко она переходит в настоящую пытку. Устраивается гребля из корней, кое-как наброcанных веток, жердей, брёвен, связок хвороста и комьев земли. Но попадаются и такие гребли, о которых, не видавши их, невозможно составить себе настоящего понятия. Мне пришлось наблюдать, например, такую "дорогу": в лесу на разбитом жидком чёрном болоте были положены поперёк пути вплотную одно к другому ничем не скрепленные средней толщины брёвна. На первый взгляд казалось, что перед вами мостовая, хотя и весьма тряская. Но это так только казалось. Когда по мостовой шёл человек, брёвна, правда, шевелились, слегка поддавались под ногами, но всё-таки держали идущего. Дорога вовсе не для пешеходов. Это была дорога для телег, и мы должны были здесь проехать. Я благоразумно отказался от такого удовольствия, едва взглянув на "мостовую", слез, перешёл пешком и стал наблюдать, что же будет дальше, и увидел прямо-таки жуткую картину. Едва только лошадь поставила ногу на первое бревно, как оно глубоко погрузилось в грязную жижу. Судорожным движением испуганное животное поставило другую ногу на следующее бревно – погрузилось оно, а первое начало всплывать. И так на всём пути, наподобие клавишей рояля…

С колёсами дело пошло лучше: когда погружалось одно бревно, колесо попадало на два соседних, и в общем телега тонула неглубоко. Но на несчастную лошадь тяжело было смотреть, тем более что она легко могла переломать себе ноги между этими движущимися то вверх, то вниз брёвнами. И поспешил уйти вперёд, предоставив кучеру и леснику перебираться одним. Только местная лошадь могла идти по такой "дороге". Да и та страшно боялась, нервничала и металась, пытаясь найти более устойчивую опору.

Другая, известная мне "колёсная" дорога проходила по такой же мостовой, но на ней брёвна давно лежали на дне болота. Лошадь с повозкой шла по твёрдой основе и не могла провалиться глубже. Но на самой дороге вода была настолько глубока, что лошадь шла больше чем по брюхо в воде, а людям пришлось стоять на сиденьях и в таком положении ехать, так как дно телеги тоже было под водой. И такой путь на несколько километров!..

*(Окончание – в следующем номере)*



*Фото Сергея ЧЕРЕПИЦЫ и Максима МЕДВЕДНИКА.*



# 75 Віншуем!

Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч — аўтар многіх цудоўных кніг паэзіі і прозы, глыбокіх літаратуразнаўчых прац, зборнікаў перакладаў з балгарскай, сербскай,славенскай і некаторых іншых славянскіх моў. Ён быў укладальнікам і рэдактарам некалькіх тамоў нашага дзівоснага беларускага фальклору. А для юных чытачоў Ніл Сымонавіч выдаў кніжкі вершаў і паэм "Сцяжок на мачце" (1959), "Зялёны востраў" (1963), "Загадкі" (1971), "Калі рана ўстанеш" (1984). На іх старонках цікаўных і няўрымслівых хлапчукоў і дзяўчатак чакаюць незабыўныя адкрыцці ў жыцці і навакольным свеце.

Прафесар Ніл Гілевіч доўгія гады выкладаў у Беларускім дзяржаўным універсітэце, дзе і мне давялося вучыцца. Яго лекцыі вярталі нас да радаводных каранёў, расхілялі перад намі неабдымныя далягляды, мацавалі волю і творчыя крылы. Віншуючы з яго 75-годдзем, я хачу сказаць Нілу Сымонавічу:

— Нізкі паклон Вам, дарагі Настаўнік! Няхай здароўе, мужнасць і натхненне не пакідаюць Вас яшчэ доўгія гады!

*Уладзімір ЯГОЎДЗІК.*

## Загадкі



***Сіта не сіта,***
***Рукамі не віта,***
***І пража не пража.***
***Хто знае, той скажа.***

***Праз усю зямлю прайшоў,***
***Шапку чорную знайшоў,***
***Стаў ля сцежачкі якраз,***
***Выстаўляе напаказ.***
***Ох, дзівак, няхай бы лез***
***У гушчар пад лапкі:***
***Сёння ж прыйдуць дзеці ў лес***
***Па такія шапкі!***





***Нішто не ляцела,***
***Нішто не спужала,***
***А ўся затрымцела,***
***А ўся задрыжала.***

# КАЛІ РАНА ЎСТАНЕШ

*Калі рана ўстанеш –*
*Разам з сонцам зыркім,*
*Што ўсплыве над зыбкім*
*Вогнішчам зары, –*
*Колькі ты пабачыш*
*З'яў жыцця дзівосных,*
*Колькі цудаў розных*
*Згледзіш на двары!*

*Калі рана ўстанеш –*
*Разам з ветрам буйным,*
*Што абудзіць струны*
*Неба, дрэў, травы, –*
*Колькі ты пачуеш*
*Гукаў-зыкаў дзіўных,*
*Звонаў пераліўных,*
*Спеваў харавых!*

*Калі рана ўстанеш –*
*Разам з мамай, татам*
*Ды за справу-працу*
*Возьмешся хутчэй, –*
*Колькі ты пазнаеш*
*Радасці нясцерпнай –*
*Аж да песні з сэрца,*
*Аж да слёз з вачэй!*

*Калі рана ўстанеш –*
*Разам з сонцам яркім,*
*Разам з ветрам шпаркім*
*Разам з белым днём, –*
*Сам тады, мой дружа,*
*Разумець ты будзеш,*
*Для чаго мы, людзі,*
*На зямлі жывём.*



Малюнкі Алены ЛОСЬ.

*Рэпартаж Руслана Шайкіна "Весна не для выстрелов" ("Лесавік" № 2) мы чыталі разам з мамай і татам. І на сваім сямейным абмеркаванні адназначна падтрымалі аўтара. Сапраўды, хіба можна вясной ці восенню паляваць на птушак? У іх і так цяпер вельмі цяжкае жыццё. Невыпадкова ж многія птушкі занесены ў нацыянальныя і міжнародныя Чырвоныя кнігі. Навошта дазваляць людзям са стрэльбамі знішчаць тое бясцэннае багацце, якое належыць усім людзям?*

*Ліза і Каця ЛІПАЙ, в. Зенькавічы Уздзенскага р-на.*

# АДСТРЭЛ – НЕ ВЫЙСЦЕ

*Небяспеку птушынага грыпу грамадства можа адолець агульнымі намаганнямі. Дастаткова шырока паведаміць пра неабходнасць перасцярогі, і людзі самі змогуць абараніць сябе ад непажаданых наступстваў. Наадварот, яны будуць больш пільныя і абавязкова паведамяць ветэрынарным службам пра знойдзеных мёртвых птушак. А спецыяльныя знішчальныя акцыі ў гэтым выпадку не дапамогуць, як не спыніў эпідэмію шаленства адстрэл у нашым Віцебску бадзяжных катоў і сабак...*

*Кацярына СЦЯПАНАВА, гімназія № 1,*
*Мацвей ТАЛПЫГА, гімназія № 2 г. Віцебска.*

# НА ЗЯЛЁНАЙ СЦЯЖЫНЦЫ

Прыроду трэба любіць. А найперш – аберагаць, памнажаць. Вось чаму экалагічны накірунак з'яўляецца адным з важнейшых у рабоце ўстаноў адукацыі Мядзельскага раёна. Мэтанакіравана арганізаваны ён у Нарацкіх СШ №1 і №2, СПІ №2 г. Мядзел, Камароўскай СШ, Лук'янавіцкай, Вузлянскай базавых школах, у дашкольных установах курортнага пасёлка Нарач і вёскі Будслаў.

З 1993 года пры Нарацкай СШ №2 дзейнічае клуб "Абуджэнне", які з'яўляецца паўнапраўным членам клубаў ЮНЕСКА. Яго сябры прымаюць удзел у рабоце рэспубліканскіх і міжнародных лагераў, семінараў. Сёлета вучні 10 класа Вольга Бордун і Аляксандр Русак сталі дыпламантамі (дыпломы другой ступені) рэспубліканскага конкурсу біёлага-экалагічных навукова-даследчых работ (пад кіраўніцтвам настаўніцы Тацццяны Уладзіміраўны Пракоп). Па выніках абласной навукова-практычнай канферэнцыі юныя даследчыкі навакольнага асяроддзя Камароўскай СШ занялі першае месца (настаўніца Часлава Зянонаўна Драўніцкая).

У рамках Дзяржаўнай праграмы Усебеларускай турысцкакраязнаўчай экспедыцыі "Наш край" вучні многіх школ удзельнічалі ў правядзенні аперацый "Азеляненне і добраўпарадкаванне", "Зялёная аптэка", "Лес – наш сябар", "Мурашнік", у акцыях "Дзень Зямлі", "Дзень вады" і інш.

Экалагічнае выхаванне школьнікаў ажыццяўляецца праз іх удзел у рабоце школьных лясніцтваў (16 лясніцтваў, 429 дзяцей), "блакітных", "зялёных патрулёў", валанцёрскіх экалагічных атрадаў (Мядзельскія №1, №2 СШ, Старагабская школа-сад).

Новыя праекты – вынік цеснага супрацоўніцтва аддзела адукацыі з раённай інспекцыяй прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, якую ўзначальвае Іосіф Францавіч Тарасёнак, з Нацыянальным паркам "Нарачанскі", з біястанцыяй БДУ. Чатыры гады запар сумесна з іх супрацоўнікамі арганізаваны пастаянна дзеючы семінар для дырэктараў школ, намеснікаў па выхаваўчай рабоце, настаўнікаў біялогіі. Яго тэма – "Экалагічнае выхаванне і адукацыя школьнікаў ва ўмовах Нацыянальнага парку "Нарачанскі". Варта дадаць, што біястанцыя БДУ прадастаўляе базу для правядзення навукова-даследчай работы ў галіне навакольнага асяроддзя.

*Ірына ГЛІНСКАЯ,*
*спецыяліст аддзела адукацыі*
*Мядзельскага райвыканкама.*

# 8—9 ВЕРАСНЯ Ў НАРАЧАНСКІМ КРАІ АДБЫЎСЯ IV РЭСПУБЛІКАНСКІ ЭКАЛАГІЧНЫ ФОРУМ

Фотарэпартаж Уладзіміра ЯГОЎДЗІКА.



У славутым лагеры "Зубронак" гэты белавежскі волат адчувае сябе ўтульна, бо тут не забываюцца пра сур'ёзнае экалагічнае выхаванне.



У міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Лявонція Іванавіча Харужыка заўсёды добры настрой, калі ён сустракаецца з моладдзю, якая дбае аб заўтрашнім дні нашай роднай зямлі.



На IV Рэспубліканскім экалагічным форуме самай вялікай і арыгінальнай была сталічная дэлегацыя. Яе прадстаўнікі на чале з старшынёй гарадскога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Аляксандрам Мікалаевічам Баравіковым (на здымку ў цэнтры) падаравалі жыхарам нарачанскага краю герб Мінска, створаны з жывых кветак.










У старадаўнім парку, што часткова захаваўся ў вёсцы Камарова, ўдзельнікі свята, трапіўшы ў "Горад майстроў", нібыта паспыталі жывой вады з беларускай святой крыніцы.

## НА ШАЛЯХ АЗЁР

*На шалях азёр*
*Узважваюцца рыбацкія лодкі,*
*Пералётныя хмары і птушкі.*

*Вось на шалю Мястра*
*Легла навальніца,*
*І яно — пачало ападаць.*
*Потым на шалю Нарачы*
*Цень партызанскага помніка лёг,*
*І яно — пераважыла.*

*І так хістаюцца шалі азёр*
*Ад хмар і вясёлак,*
*Ад сонца і зор.*

*Колькі разоў на гэтых шалях*
*Узважваліся*
*І маё сэрца і мае песні!*

*Максім ТАНК.*



Фота Рыгора АМЯЛЬЯНЦА.

·ЛЕСАВІК·

Кошт часопіса для падпісчыкаў:
індывідуальных – 2550 руб.,
ведамасных – 2700 руб.